# ЗВОН

Беларуская штодзенная палітычна-літэратурная часопісь.
Рукапісы павінны быць перапісаны чытэльна. Аплата прынятых рукапісау залежыць ад рэдакцыі. Рукапісы назад не выдаюцца.
Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: м. Менск, Юбілейны дом.
Цана нумару 1 марка.

ГОД ВЫДАНЬНЯ I.
РЭДАКЦЫЯ адчынена штодня ад 9—12 гадз. і ад 5—7 гадз.

Цана абвестак:
за 1 радок за тэкстам . 2 м.
шукаючым працы, за абвестку . . . . 2 м.

№ 21. Менск, Пятніца 10 кастрычніка 1919 г. № 21.

**На гэтых днех адчыняюцца Беларускіе курсы для настаунікау Меншчыны. Запіс на курсы адбываецца штодня у Беларускай Школьнай Радзе, (Захарауская вул., б. Юбілейны Дом) ад 11—2 гадзін і ад 5—7 у вечары.**

Кіраунічы курсамі *Я. Лесік.*

## Ня маюць прытулку.

Менск—сэрцо Беларусі, яе этнографічная сталіца. Так пішуць у газэтах і так думаюць людзі, каторые жывуць па-за межамі Беларусі. Але мы мусім зазначыць, што гэта памылка і няпрауда, бо хіба можа быць дзе-небудзь на сьвеце, каб сам народ у сваей уласнай сталіцы ня меу сабе прытулку?! А беларусы у Менску ня маюць прытулку. Іх, адвечных гаспадароу гэтага места, выціснулі адусюль, адкуль толькі можна было выціснуць. Беларусам пакінулі толькі права глядзець на тое, як жывуць іншые ды моучкі сьціскаць кулакі, распаляючы у сэрцы помсту.

Была у беларусау настауніцкая сэмінарыя у Менску. Яна перажыла самые цяжкіе часы бальшавізму і усе чакала лепшай долі. Месьцілася яна па Захараускай вуліцы № 43, мела сваю маетнасьць і цэлы штат настаунікау. А гдзе яна цяпер? Маетнасьць яе паразьбіралі сквапные людзі, а памяшканьне занялі тые, хто ужо сапрауды цераз хлеб—хлеба шукае. Паглядзі, чытачу, хто цяпер месьціцца у бydынку беларускай сэмінарыі і запытай сябе, ці-ж не маглі яны знайці сабе іншага месца, каб хоць крошку шанавалі той народ, установы каторага павыкідалі на вуліцу?!

Была у Менску беларуская гімназія на Александраускай вуліцы, а паглядзі, чытачу, хто там цяпер месьціцца і запытай сябе, ці-ж не маглі яны знайці сабе лепшага месца, каб не хацелі крыудзіць таго, хто праз векі зносіць зьдзек і паняверку?!

Быу у Менску Настауніцкі Інститут, каторы стау вышэйшай пэдагогічнай беларускай школай. Месьціуся ен у скарбовым памяшканьні, дзе была калісь расійская рэальная гімназія, а паглядзі, чытачу, хто цяпер займае тое памяшканьне і запытай сябе, ці-ж не наумысьле усе гэта робіцца, каб спраудзіць словы: „на каго Бог, на таго і людзі“. Ці-ж не маглі яны, маючые сілу і уладу, знайці сабе іншага мейсца, каб хацелі жыць у дружбе і згодзе з тым народам, каторы нацярпеуся столькі гора, сьлез і пакуты?

Не, мімаволі хочацца сказаць, што усе гэта робіцца наумысьля, нарокам і сьвядома чыніцца крыуда і незабываемая абраза. Мабыць нехта сьвядома стараецца усякімі спосабамі змагацца з беларушчынай і ставіць беларусам перашкоды. Бо ня можна, напрыклад, дапусьціць, каб той шпіталь, што займае цяпер памяшканьне інстытуту, зрабіу гэта сам, без парады з некім іншым, хто выкарыстау яго для змаганьня з беларушчынай.

Гэтые тры прасьветные установы беларусы толькі і мелі і яны разрушаны.

Польская улада павінна зьвярнуць на гэта увагу, і, калі яна шануе свайго Дзяржаунага Начальніка, каторы лічыць сябе прыхільнікам і прыяцелем беларушчыны, то мусіць зараз-жа зрабіць станоучые заходы, каб загладзіць прычыненую беларусам у іх уласным горадзе цяжкую крыуду. Польская улада павінна гэта зрабіць, калі мае дзяржауны розум і разумее свае становішчо, бо сталося так, што беларусам пакінулі адно толькі права,—права пазіраць на жыцьце іншых ды моучкі сьціскаць кулакі, распаляючы у сэрцы помсту.

## Якіе будуць школы на Меншчыне.

Школьная справа апынулася цяпер у самых дрэнных варунках. Да гэтага часу няма аб рэформе школ ніякіх агульных распараджэньняу. Школа народная вісіць у паветры, і ці будзе распачата навука па вясковых школах праз месяц—няма ведама. Усе стараньне галадаючага настауніцтва ні да чога ня прыводзе, і яшчэ настауніцтво Менскага павету тые ці іншые інформацыі адтрымлівае з Менску і пачынае само арганізываць сялян, каб уласнай ініцыятывай паставіць беларускую народную школу на моцны грунт, а што датычыць настаунікау з далекіх паветау, то яны ходзяць дома у поуным нязнаньні: калі адчыняцца школы, на якой выкладовай мове, хто будзе зацьвярджаць настаунікау і плаціць ім пэнсію, хто з настаунікау астанецца у школе, вось пытаньні, якіе мучаць настауніка і прымушаюць яго, галодн нага, не атрымліваушага пэнсіі з 1 жніуня, цягнуцца пехатой з Ігуменскага ці Слуцкага павету у Менск. Не уладаючы польскай мовай, дрэнна гаворачы і пабеларуску, ен кепска сябе пачувае і у польскіх і у беларускіх установах.

Значная частка з вясковых настаунікау, вышаушых з сялянскай хаты і не забыушых роднай мовы і ужываушых яе у сваіх школах, радуюцца, што іх школы будуць істнаваць як школы беларускіе, і зараз жа імчацца у сваю школу, каб там ад сялян мець прыгавар аб перафармаваньні былой расійскай школы у беларускую. Шмат такіх заявау, як мы даведаліся, праходзіць праз Беларускую Школьную Раду Меншчыны да інспэктора школ Менскага Округу аб адчыненьні беларускіх школ у весках. Некаторые-ж з настаунікау, мусіць спадзяючыся на прыход Дэнікіна, ці што, не сьпяшаюцца з падачай заявау і на прапозыцыі павятовых інспэктароу і далей вучыць парасейску, але у першым аддзяленьні каб выкладовай мовай была толькі польская мова,—згаджаюцца і на гэта, разьлічаючы, што, можа удасца потым вярнуцца на расійскую мову і вучыць у сваіх школах па старому.

Дарагіе паночкі! Хітрыкамі калі і пройдзеш сьвет, то назад ня вернешся. Каму трэба, той добра разумее, чаму вы так легка даеце згоду! Памятайце, што толькі беларуская школа, як народная школа, можа быць тут школай сталай, моцнай, нярухомай. А хістаньне з боку у бок будзе заусюды шкадлівым для вас і здрадай будзе для люднасьці, для беларускага народу.

Вядома, што з расійскай школай на весках трэба растацца. Есьць вядома, што яе ня будзе. Час ужо праканацца усім, што у нас, на Меншчыне, могуць быць школы толькі беларускіе і дзе-ня-дзе польскіе. А беларускую школу ня так ужо цяжка завесьці цяпер, калі маюцца школьные падручнікі; і настауніку, які ня зусім яшчэ адарвауся ад роднай глебы, ад мовы роднай, саусім легка будзе працаваць у школе беларускай, пачынаючы чыстае навучаньне пабеларуску з першых аддзяленьняу.

**Настаунік С.**

## Народ, каторы ня хоча згінуць.

Есьць адна нямецкая прыказка „Праца робіць жыцьце салодкім“.

Але цяпер, пасьля вялікай усесьветнай вайны, гэтая прыказка гаворыцца іначай.

„Народ, каторы ня хоча згінуць, павінен працаваць“.

І гэта праўда.

Паказаньні розных вялікіх газэт ня могуць даць нам праудзівага малюнку карціны нямецкай гаспадаркі. Праўда аб Нямеччыне мае вялікае значэньне для усяго сьвету, а каб дайсьці праўды, трэба прыглядацца да нямецкіх гандлевых сфэр, дзе часта можна прыкмеціць рэчы, якіе немцы асьцерагаюцца паказываць чужым народам.

Першым чынам ня праўда тое, што думаюць аб немцах, нібы яны абяднелі посьле вайны.

Купцы з Лейпцыгскага рынку апавядаюць як раз наадварот, што прадпрыемствы у Нямеччыне перапоунены мэталам, скурамі; прэвам, пэркалем, шклом, а цэны на тавары ніжэйшые як чымся ва усей Эўропе. Заказы паступаюць з розных краеу, з Амэрыкі, Англіі і навет з Францыі.

Праз пасрэдніцтво Швэйцарыі, Швэцыі, Даніі, Норвэгіі, Голяндыі і Італіі нямецкіе таварные транспорты разыходзяцца па усяму сьвету.

Немцы ужо з гонарам адмауляюцца ад ангельскіх і французкіх заказау, якіе для іх не выгодны.

У нямецкіх фабрыках кіпіць работа. Чуецца у іх атмосфэры цьвітучая прамысловая будучына. Есьць няупраука з транспортнай справай але гэта для іх драбніца. Штодня прыбывае шмат лекоматывау і вагонау. Так сама яны меней ад усіх другіх церпяць ад недастачы вуглю.

Нямеччына мае шмат сырога матэрьялу самага найменшага гатунку, і у гэтым сэнсе лічыцца зямлёй багатай дзяржавай у Эуропе после Англіі. І гэта зусім ня дзіво.

Нам трэба успомніць аб вялізарных цягвіках, напакованых рознымі таварамі, якіе і удзень і уночы, кожные дзьве мінуты, праносіліся па нашых ж. дарогах, вывозілі дровы, скуру, залезо, медзь, цыну і г. д. на сотні мільенау марак. Ня дзіво, што у іх цяпер стольні сырцу.

Урад Шэйдэмана затрымлівае сваей магутнай рукою усе непарадкі і забастоукі у Нямеччыне. Замест дзеннай платы за работу, там перайшлі да паштучнай платы. Гэтым праца робіцца шмат інтэнсыуней і ужо цяпер у Нямеччыне можна дастаць за 4000 марак машыну, каторая каштуе у Францыі 12000 франкау.

Немцы павялічылі рабочы дзень на адну гадзіну. Ад платы за лішні час адлічываецца у кожнага рабочага марка у дзень. Гэта дасьць прыбытку штодня 22 мільены і сем мільярадау у год. Гэты капітал астаецца на карысьць дзяржавы, каб запэуніць Нямеччыне эканамічнае панаваньне над усім сьветам.

Шэйдэман разьезджае па усей Нямеччыне, агітуе проці забастовак, узмацовывае дух рабочых, кліча да эконамічнай ашчоднасьці і на кожным кроку чуецца льозунг: „Народ, каторы працуе, ня згіне“.

**Д. Стэйнбак.**

## Беларуская інформацыя.

У № 344 „Gazety Polskiej“ надрукованы артыкул „Jnformacje białoruskie“ такога зьместу:

„Ужо даўно Цэнтральная Рада Віленшчыны і Гродзеншчыны прысылае да нашай рэдакцыі свае бюлетэні. Бюлетэні гэтые сваею мэтаю маюць інформаваць польскае грамадзянство аб тым, што робіцца на беларускай зямлі. І гэтае заданьне бюлетэні могуць споуніць, калі польская прэса будзе даваць ім мейсцо у сваіх стаўбцох.

Мы не датыкаемся таго, ці інформацыя Беларускай Цэнтральнай Рады зусім праудзіва і безстаронна. Аднак канечне патрэбна, каб польская прэса занялася імі, так сама, як павінна яна заняцца выданьнямі і органамі украінскімі, літоускімі, латышскімі.

Гэта створыць безпасрэднюю лучнасьць паміж намі і імі, пазволіць нам лепей паразумецца, чым за помаччу прэсы вельких саюзьнікау, ці прэсы пагражаючых нам з усіх бакоу ворагау.

Наогул бюлетэні Цэнтр. Белар. Рады рэдактуюцца у тоне зусім спакойным, прыводзяць часта факты гвалту, якіе маюць мейсцо па Беларусі, а прычынаю якіх найчасьцей бывае злая воля, альбо нетактоунасьць польскіхураднікау, ідучых проці тых ідэй, якіе дзяржава нясе у тые землі.

У бюлетэні № 4 ад 26 верасьня мы знаходзім даные аб адносінах польскай улады да беларускіх школ. О тож подлуг бюлетэню мейсцо мелі такіе факты:

У Гродзеншчыне польскіе школьные інспэктары выдалі прыказ, што у Беластоцкім і Бельскім павеце будуць прызнаны школы польскіе і... расійскіе, а аб бела-

## З дneуніка арміі Зяленага Дуба.

### Ноч у стане.

Вось ночка пакрыла паляну, гдзе чуць мігау астатні шакаль у вогнішчы. Пры дагараючым агні сядзело чалавек з дзесяць зеленадубцау і пільна слухалі аднаго сябра, які, важна размахваючы рукамі, аб нечым гаманіу. Здалеку здавалося, што гэты расказчык гаманіу аб чым то паважным, але добра прыгледзеушыся, на тварах слухачоу можна было разабраць, што гутарка ідзе аб вельмі сьмешным выпадку, бо ня усьпеу ен добра кончыць сваю гутарку, як падняуся такі рогат, што стары Сымон, каторы спау недалеч каля агню, падняу галаву, паслухау і вылаяуся: „А каб вас нячыста сіла падушыла! Спакою няма на вас... Годзі ужо!“ Але гэты нездаволены голас яшчэ болей паддау жару, і зарагаталі ужо ня толькі седзючые каля агню, але пачууся рогат адкульсь з цемнаты.

— „Ну, на сягодні годзі, хлопцы!“—сказау Піліп, падымаючыся з зямлі. „Гайда спаць, а то бачыце Сымона пабудзілі,—бурчыць, як мядзьведзь у бярлозе“, сьмяючыся сказау ен і адышоу ад вяселае кампаніі.

Памаленьку усе разышліся. Каля агню асталося чалавек са тры, але і тые, пакурыушы, паляглі, палажыушы пад галавы свае мяшкі з адзежай. Хутка быу чуваць толькі храп адпачываючых людзей... Ня спалі адны вартаунікі, стоячы у канцох паляны, пільна прыслухоуваючыся да кожнага шуму у лесе... А лес спау. Ціха шамацелі галінкі між сабой, як-бы змауляліся аб таемных справах свайго жыцьця. Сьвяцілі зоркі з высокага неба, глядзелі на адпачываючых людзей і, здаецца, песьцілі іх чуць прыметнымі праменьнямі. Спалі людзі, але ня доуга..

### Сыгнал.

Вось у начной цішы пачууся плач савы, і вартаунікі настрылі вушы, вось яшчэ і яшчэ.. Так і есьць: вораг ідзе! Пабудзіліся людзі, пачалі штурхаць пад бокі тых, каторые яшчэ не прачнуліся. Хутка усе былі гатовы.., Страшна было чуць, як сярод ночы лязгацелі вінтоукі, і цяжка уздыхалі людзі.

Вось над грамадай людзей высунууся нейкі чалавек у касматай шапцы. Гэта быу Дзяргач. Ціхім голасам ен пачау гаварыць:

— Сябры! Час настау! Вораг ідзе, дык няхай ен знайдзе сабе тутака, сярод лясоу, магілу! Пастаім за родную справу! Хай кожны добра ведае, што вораг ня будзе мець літасьці. калі звагае нас,—дык бецеся да астатняга уздоху... Хай Бог нам дапаможа! скончыу ен. „А цяпер, старшыны, да мяне!“ І колькі людзей абступілі Дзергача.

— Ну, вось што, паны старшыны: трэба зрабіць так, каб вораг не пасьпеу апамятавацца, покуль будзе зьніштожан, альбо разбаронен. А дзеля гэтага трэба вось што: вы, пане Ерш, пайдзеце са сваімі людзьмі і кулеметам і падпалеце кучы шакалеу, што ляжаць каля грэблі пры Воучай Сьцежцы, а

рускіх не пазволілі гаварыць. Настаунікі беларускіе адказалі, што яны будуць учыць толькі пабеларуску і на гэто адтрымалі такі адказ: „Калі так, то ідзеце да свае Беларусі, дзе яна есьць, а тут я не пазволю“.

У некаторых мясцох справы аб беларускіх школах аддаюцца інспэктарамі на рашэньне эгульнага валаснога (гміннага) сходу, але зноу часта такіх сходау не пазваляюць.

Далей бюлетэнь гаворыць аб адабраньні польскімі уладамі будынку ад беларускай школы. Зьмяшчаем гэта даслоуна па бюлетэню: „Гродзенская настаунiцкая рада абвяшчае, што будынак гродзенскай беларускай школы (былшая мястовая школа) забіраецца для школы Назарэтанак; гэто матывуецца тым, што для школы Назарэтанак, лічучай 200 дзяцей, зацесно у Марынскай гімназіі, і дзеля гэтага выкінулі школу беларускую.

15 верасьня, у часе экзамену, 20 людзей на чале з сторажам і з школьным інспэктарам убіліся у школьны будынак і пачалі забіраць усе школьные рэчы“.

Вот тые інформацыі, каторые мы падаем на адпаведнасьць бюлетэню беларускага і выясненьне каторых належыць да адпаведных улад“.

Мы упэунены, што усе у бюлетэню прауда, бо тая палітыка, якая ідзе на Гродзеншчыне, робіцца і у Меншчыне. І тут адбіраюцца школьные будынкі і тут, каб адчыніць беларускую школу, патрэбна такая валакіта, каторая фактычна есьць забарона беларускіх школ.

**А. Данілевіч.**

## У ВЫРАЙ.

*Зашумела нудна восень*
*Шумам лісьцяу, шумам сосен,*
*Дашы волю хмурам.*
*Ажна з гоняу Беларусі*
*У вырай вылецелі гусі,*
*Паплылі у даль шнурам.*
*Сьледам з выраем, з гусямі*
*Палляцелі думкі самі,*
*Сэрцо ускалыхнулі,*
*Ускалыхнулі долі плесьняй,*
*Азваліся казкай песьняй,*
*У суме патанулі...*
*Ой, вам, гусі-вырайніцы,*
*Жыць нядоуга у чужаніцы,*
*Зноу к нам прыплывеце,*
*Зноу вас будуць сустрэчаці*
*Нашы рэчкі, сенажаці,*
*Наша сонцо у цвеце.*
*Ой, вы, гусі-гудзіцелькі,*
*Не забудзеце зямелькі,*
*Дзе дзяцей пладзілі,*
*Дзе вы месячык стрэчалі,*
*Дзе вы зоркі падлічалі,*
*Плавалі, хадзілі.*
*Знаю, зложыце тут косьці,*
*Толькі злетаеце у госьці*
*Асьвяжыці грудзі;*
*Вы ня умеюце йшчэ гусі*
*Выракацца Беларусі,*
*Як умеюць людзі!*

**Янка Купала.**

Смаленск, 31/х 1918 г.

## Краса душы народнай.

Кожны новаадражоны народ чакае сваіх песьняроу, маляроу і наогул мастакоу як нейкіх прарокау і адпавіцеляу жыцьця. Гэтые лепшые сыны роднай зямлі усяму сьвету паказываюць красу душы народнай і гэтым заваевываюць для роднага народу право быць залічаным у вялікую сямью народау усей зямлі, як самабытная сіла, каторая маець свой асобісты твар, свае асобістае творчае жыцьце.

А мы, беларусы, каго чакаем? Поэтау, пісьменьнікау мы ужо, дзякаваць Богу, дачакаліся,—мы іх маем. У роднай мове яны малююць жыцьце наша і нашы радасьці, нашу нядолю, нашу сівую мінуушчыну і нашые ідэалы будучыны.

Але ці дачакаліся мы сваіх беларускіх, вышаушых з гушчы народнай, творцоу красы—мастакоу паказнога штукарства (художнікі, рэзьбяры, скульптары і г. д.), каторые свае багатай душою у прыгожым майстэрстве адбівалі б, як у вадзяном люстры, красу жыцьця, красу зямлі, на якой мы жывем, красу душы народнай і яе ідэалау. Ці дачакаліся іх?

Дачакаліся. Яны прыходзяць да нашай хаты з гарачым жаданьнем да працы, але мы не зьвяртаем на іх належачай увагі, мы не падтрымоуваем у поунай меры іх душэуных і матэрьяльных патрэб. Мы гэта усе адкладываем, кажучы, што у нас на чарзе стаяць болей пільные патрэбы. І яны ад нас уходзяць поуные крыуды і скаргі.

У кірунку падтрыманьня роднага мастацтва мы адсталі нават ад меньшых ад нас па ліку суседних народау. Добрым прыкладам могуць нам служыць ліцьвіны. Яны паказалі сьвету усяму свайго хатніка, мастака самавучку Чурляніса каторы сваімі дробнымі сымболічна-мэстычнымі малюнкамі шмат славы прыдбау для свае бацькаушчыны—Літвы.

Пара і нам, беларусам, пакінуць нашае недбальство у гэтым кірунку і схамянуцца, што наша літэратура і штукарство (малярство, скульптура, рысауніцтво, рэзьбярство, сцэна, музыка і г. д.)—есьць

агонь адкрыеце з другога боку грэблі. Усе гэта зробіце, як пачуеце гвізд.

— Добра,—сказау Ерш,—і хутка са сваімі людзьмі згінуу у цемнаце лесу.

— А вы, пане Громау, са сваімі людзьмі разьбярэце масток на грэблі і першы адкрывайце агонь. А я з сябрамі нападу на іх з двох бакоу грэблі. Ну, у добры час, сябры, з Богам!

І старшыня Громау з малайцамі уплыу у цемнату.

— А вы, пане Сымон, баранеце стан свае камандай!—скончыу Дзяргач.

На паляне засталіся толькі Сымон ды яго людзі.

### Вораг ідзе.

Прытаіліся зеленадубцы па бакох грэблі, у кустох за пнямі, за высокімі дубамі і ждуць... Ужэ чуваць вялікі шум ад тупату коней і людзей. Скрыпяць калесы вазоу і чуваць, як людзі часалі гамоняць адзін да аднаго... Усе бліжай і бліжай. Вось ужо да мосту пад'еджджаюць... Яшчэ міг і пачууся крык. Нехта паляцеу у воду.

„Стой! Куда прош! Моста нет!“—разносіцца голас ворага, і некалькі чалавек сьпяшаюцца памагчы свайму правадыру. Але у гэты міг з другога боку канавы загаманіу пехта зычным голасам: „Здавайцеся, калі жыцьцо міла, а не—згінеце, як дым у паветры!“ То крычау ім Громау.

— Товарышчы ні с места! К оружію! Сюда пулеметы!—чуваць каманду сярод ворагау.

У гэты міг загаманіу кулямет, але ня уражы. А разам панесся моцны гвізд, і вялікі пломень запалау ззаду ворага... Трашчаць стрэльбы, гамоніць кулямет: „бах, бах, бах“.

Пачуліся сьмяртэльные крыкі і лаянка начальнікау.

Сунуліся людзі у гушчарню лесу, але і адтуль загрымелі выстралы, засьвісталі кулі.

— „Здаемся, здаемся!“ загалалі ашалелые людзі, абнятые з усіх бакоу і пачалі кідаць стрэльбы на зямлю.

Вось зноу зычыць гвізд, і сьціхлі выстралы. Запалау агонь, і Дзяргач з людзьмі вышау з засады. Са усіх бакоу беглі зеленадубцы і адбіралі ад ворага яго баявые прыпасы. Шмат забралі вінтовак, набояу, тры кулямeты і усе гэта зьнеслі з вачэй стаяушых, як нежывых, ворагау.

— Ну, а цяпер,—зьвярнууся да іх Дзяргач: можаце іці туды, адкуль прышлі, і сказаць сваім, што так пагінуць усе, хто пойдзе сюды, хто падыме руку на свабоду нашай Бацькаушчыны! Скажэце сваім, што тут спаткалі вы тых, хтэ уміраючы крычыць: „Хай жыве Вольная Беларусь“!

— Хай жыве!—гукнулі зеленадубцы у вадзін голас.

— Ну, ідзеце сабе,—кінуу Дзяргач на ворагау.

Нясьмела рушыліся людзі і пайшлі, апусьціушы задуманные галавы, ад таго месца, гдзе колькі іх сяброу асталося ляжаць на векі. **В. Адамовіч.**

*(Канец будзе).*

самымі найпэунейшымі дакумэнтамі нашай культурнасьці і сьпеласьці на права самаістнаваньня у вачох цэлага сьвету. Дык будзем разьвіваць і падтрымліваць усімі сіламі наша маладое мастацтво—прыгожасьць, красу душы народнай і гэта будзе самы найлепшы грунт дзеле адбудаваньня нашай гаротнай бацькаушчыны-Беларусі.

**Язэп Разора.**

## БЕЛАРУСКАЯ КРОНІКА.

**Семіклясовая Беларуская школа у Горадні.** Стараньнем Горадзенскага Беларускага Вучыцельскага Саюзу з восені гэтага году адкрываецца у Горадне 7-мі клясовая агульная беларуская школа. Грамада беларускай моладзі у Горадне арганізуе бібліотэку, чытальню і аматорскую тэатральную дружыну.

**Беларуская Вайсковая Камісія.** Загадам з дня 22.9.19. Беларуская Вайсковая Камісія устанавіла часовы штат канцэлярыі (штаб) вайскавой камісіі, якая пакуль што складаецца з 25 асоб: канцэлярыя 16 асоб, каманданцкая команда—3 асобы, рэзэрв пры канцэлярыі вайскавой камісіі—3 асобы, мэдыцынская часьць—3 асобы.

**Прыгавары аб школах.** У школьны аддзел Цэнтр. Белар. Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны 29.9.19. паступілі прыгавары з просьбай аб адкрыцьці беларускіх школ у Насілаве Віленскага павету (35 подп.), у Заскавічах Ашмянскага павету (35 подп.), у Лебядзеве Вілейскага павету (188 подп.), у Маркаве Вілейскага павету (38 подп.).

**На настауніцкіх курсах у Вільні.** На II кароткатэрміновые настауніцкіе курсы у Вільні запісалося і прынято 170 чалавек. Дзеле таго, што курсы былі разьлічаны толькі па 100 чал., пастаноулено запіс на курсы з 1 кастрычніка прыпыніць.

## Палітычные навіны.

### Газэтная байка.

Агэнтура Гаваса паведамляе з Вашынгтону 30-IX, што па офіцыяльным весткам бальшавікі гатовы замірыцца, калі 12 правадыроу, меж каторымі і Ленін, адтрымають права на праезд у Амэрыку.

Вільсон, як кажуць, прызнае новае правіцельство у Расіі тагды, калі сабяруцца сябры партыі конституц.-дэмократы.

### Літва і бальшавікі.

МАСКВА. 3-го кастрычніка. Літоускі старшыня міністраувыслау іскравую дэпэшу да Чычэрына з паведамленьнем, што літоускі урад не адказа на мірную пропозыцыю Савецкай Расіі, пакуль ня скончацца мірные перагаворы з іншымі суседнімі дзяржавамі.

## МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

**Тавараабмен** наміж вескай і мястовымі коопэратывамі пакуль што ідзець туга з той прычыны, што у сялян няма веры у парадк. Яшчэ шкодзіць тое, што сяляне адмауляюцца прыймаць грашавые знакі, апрача „царскіх", ды пры тым новые.

Гэтымі днямі сіроцкі суд мае быць пераробленым у апякунскую раду.

**Сярод жыдоу.** Да выбарау у мястовае самаупрауленьне мясцовые жыды, выключаючы левых элемэнтау („Бунда" і інш.), маюць злучацца каля адзінага спіску.—Ужо пачата актыуная праца у гэтым напрамку.

**Гатовые вопраткі, боты і дровы** будуць прадавацца у мясцовых коопэратывах па недарагім цэнам у хуткім часе.

Авансы на дровы прыймаюцца ад усіх сяброу коопэратывау на рагу Петрапаулаускай і Юраускай д. № 11-16.

**Хлеб** у прыватнай прадажы зноу падаражау—2 р. 70 к.—3 р. фунт.

**Бульба** з прычын жыдоускіх сьвят падаражэла да 50 к. за фунт.

**Гарбата** (у пакетах) патанела да 25 р. за фунт.

— Дровы бярозавые патанелі на Троіцкім рынку да 100 р.—95 р. за воз.

**Боты** можна купіць за 250 р. пару.

## Допісы.

### Са Случчыны.

У часе нямецкай окупацыі беларускі рух у павеце бадай што саусім замер, работа вялася толькі хатнім спосабам людзьмі блізка стаячымі да беларускай справы і то не саусім ахвотна. Прычынай гэтага былі розные палітычные стасункі у Расіі, а потым у Гэрманіі. Посьле прыходу бальшавікоу і з працай З. Жылуновіча, з паяуленьнем яго вядомага усім „маніфэсту" беларуская справа, здавалося, разьвіваецца шырэй, але скора усе замоукло і вырысавалося тое, што Беларусі і беларускага народу ізноу няма.

У цяперашні час справа стаіць далека ня лепей. Польская уласьць хоць і не бьець саусім па беларускаму руху, але усеж такі спрыяе сваім інтарэсамі болей.

Усе гэта само сабой пяпер вее іх духам, і яны сталі панамі палажэньня, горшые стасункі відаць са стараны інтэлігэнцыі, каторая ня знае сама, чаго хоча. Не на іх старане цяпер сьвята, не яны сталі бліжэй да палітычнага руху, а усе-ж яны, інтэлігэнты, ня хочуць прызнаць, што есьць беларуская мова і беларускі народ.

Прыходзіцца крута у тым, што ня знаюць польскага языка, а сваей роднай мовы, хоць знаюць, да карыстаць ня умеюць. А добра не разумеюць таго, што час ужо працаваць над адраджэньнем сваей бацькаушчыны, дауно пара ужо пазбыцца гнету чужых і тварыць самым свае культурнае жыцьце.

Стыдна, паны інтэлігэнты! Што скажа вам прачнуушыся ад векавога сну народ беларускі.

**Тутэйшы.**

## БЕЛАРУСКІ ТЭАТР.

У нядзелю, 5-га кастрычніка, у Беларускай Хаце першы раз выступіла труппа, з'арганізованная пад назваю „Беларуская Тэатральная Грамада". Ставілі пьесу Аляхновіча „Манька" у рэжысуры Сымона Музыкі. Вітаючы новую труппу і яе шчырую працу, якую відаць у маладых артыстау, мы мусім зазначыць, што першае выступленьне было ня надта удалае. Няудалае тым, што ня можна ацаніць здольнасьці артыстау, як артыстау беларускіх. Пьеса „Манька" выяуляе сабою жыцьце даунейшай студэнцкай моладзі у пьянай Расіі. Беларускага колеру тут мала. Дзеля гэтага і артысты не маглі выявіць сябе, як беларусы.

Але мы спадзяемся, што праца новай труппы будзе добрай і карыснай. Відаць здольнасьць, энэргію, шчырасьць і любасьць да працы.

Аб ігры асобных артыстау гэты раз гаварыць ня будзем.

**М—ч.**

*Рэдактар-выдавец*

*Яд. ЛУЦЭВІЧ.*



З дазвал. Цэнзуры Друкарня Інвалідау, Менск.